*Замяталін спрабуе ўратаваць прэзідэнцкі орган (стар. 2)*
*"Ножкі Дзяржынскага" наступаюць на "ножкі Буша" (стар. 2)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 45.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская,56
Тэл./факс 362441

12 сакавіка 1996 г. | № 18 | Кошт свабодны

## Сход супраць «рэвізіі» Чарнобыля

**Недзяржаўныя "чарнобыльскія" арганізацыі Беларусі пратэстуюць супраць згортвання праграмаў дапамогі ахвярам Чарнобыля і адмовы ад патрабаванняў міжнароднай кампенсацыі за нанесеныя страты.**

57 прадстаўнікоў чатырнаццаці грамадскіх арганізацыяў, якія правялі 10 сакавіка нараду ў Мінску, папярэдзілі прэзідэнта Лукашэнку, што такія крокі будуць успрыняты не інакш як здрада народу Беларусі. Сённяшнія ўлады спрабуюць зрабіць рэвізію чарнобыльскай праблемы ў бок яе змяншэння, — сцвярджалі ўдзельнікі сходу. У якасці прыкладу прыводзілася новая ўрадавая канцэпцыя, згодна з якой дзяржаўнай падтрымкі будуць пазбаўленыя амаль 2 млн. жыхароў Беларусі.

Каб процістаяць "рэвізіі" і актывізаваць дапамогу пацярпелым людзям, удзельнікі сходу стварылі каардынацыйны камітэт, які аб'ядноўвае ўсе недзяржаўныя "чарнобыльскія" арганізацыі. Камітэт запатрабаваў выканання "чарнобыльскіх" законаў і заявіў, што ён будзе звяртацца ў ААН, Еўрапарламент і да кіраўнікоў сямі вядучых краінаў свету па дапамогу.

26 красавіка ў дзень 10-й гадавіны катастрофы на ЧАЭС вырашана правесці сумесную акцыю "Чарнобыльскі шлях".

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Ведамствам Івана Ціцянкова зоймецца Кантрольная палата

7 сакавіка парламент абмяркоўваў пытанне аб стварэнні часовай камісіі па праверцы дзейнасці Кіраўніцтва справамі прэзідэнта. Праекты пастановаў аб стварэнні такой камісіі былі прапанаваныя старшынёю Вярхоўнага Савета Сямёнам Шарэцкім і камісіяй па заканадаўству.

Дэпутат Віктар Ганчар, які ініцыяваў гэты працэс, заявіў, што прэзідэнцкія распараджэнні аб перадачы Кіраўніцтву справамі дзяржаўнай уласнасці парушаюць, як мінімум, 6 законаў. Па словах намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Генадзя Карпенкі, цэлыя галіны нацыянальнай прамысловасці гінуць з-за таго, што прэзідэнт дае розныя незаконныя льготы асобным фірмам.

У абарону ведамства Івана Ціцянкова выступіла фракцыя "Згода". У альтэрнатыўным праекце пастановы, падрыхтаваным яе актывістамі, было падкрэслена, што для стварэння камісіі няма дастатковых падставаў. Наогул, паводзіны прэзідэнцкіх прыхільнікаў падчас абмеркавання гэтага пытання вельмі паказальныя: члены фракцыі амаль не адыходзілі ад мікрафонаў. Дэпутатаў, якія выступалі за неабходнасць праверкі выканання ведамствам Ціцянкова законаў і Канстытуцыі, палохалі прэзідэнцкім і народным гневам. Віцэ-спікеру Генадзю Карпенку пагразілі праверкай ягонай дзейнасці на пасадзе мэра Маладзечна.

Як адзначыў дэпутат Грушэўскі, "такая пазіцыя фракцыі незразумелая. Калі ў Кіраўніцтве справамі няма ніякіх парушэнняў, то не варта баяцца праверкі". Дэпутат Анатоль Лябедзька адзначыў, што пытанне аб Кіраўніцтве справамі даўно выйшла за межы Авальнай залы. Выбаршчыкі патрабуюць навесці парадак у гэтай структуры. На думку выбаршчыкаў спаслаўся і Уладзімір Нісцюк, які заявіў, што Кіраўніцтва справамі не павінна быць дзяржаваю ў дзяржаве.

У далікатнай сітуацыі апынуўся старшыня Кантрольнай палаты Васіль Саковіч. Рэч у тым, што фракцыя "Згода" прапанавала заняцца праверкай дзейнасці Кіраўніцтва справамі Кантрольнай палаце. Супраць гэтага выступіў Мечыслаў Грыб, які паведаміў, што парламент 12-га склікання ўжо даваў такое даручэнне, але яно не было выканана. Абвяргаючы абвінавачванні ў некампетэнтнасці, Васіль Саковіч заявіў, што за ўвесь час сваёй дзейнасці Кантрольная палата не схавала ніводнага матэрыяла: "Прапрацаваўшы 4 гады, я нічога не баюся, бо ведаю, што нічога добрага мяне не чакае. Калі Іван Ціцянкоў не прадаставіць мне неабходныя дакументы, я звярнуся ў пракуратуру з просьбай аб узбуджэнні крымінальнай справы".

Прыслухаўшыся да слоў Васіля Саковіча, парламент прыняў рашэнне даручыць праверку дзейнасці Кіраўніцтва справамі Кантрольнай палаце. Пытанне аб стварэнні часовай парламенцкай камісіі адкладзена да 1 красавіка.

Актыўнасць прынесла прыхільнікам прэзідэнта толькі часовы поспех. Пытанне аб стварэнні камісіі адкладзена, але не забытае. Можна не сумнявацца, што той жа Віктар Ганчар яшчэ нагадае дэпутатам пра гэтую праблему.

**Андрэй МАХОЎСКІ** *(БДГ)*

# Смерць па ўласным жаданні?

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

*"Інтэграцыя" Беларусі і Расіі можа прывесці да палітычнага скону яе ініцыятара*

Аналізуючы наступствы мяркуемага "единения" Беларусі з Расіяй, трэба не забывацца на адзін вызначальны аспект. Рэч у тым, што ў выпадку рэальнага ажыццяўлення такой інтэграцыі галоўны яе ініцыятар Аляксандр Лукашэнка можа стаць проста непатрэбнай палітычнай фігурай.

Невыпадкова, што змест падпісаных у Маскве беларуска-расійскіх пагадненняў застаецца невядомым нават кіраўніцтву Вярхоўнага Савета нашай краіны. Выканаўчая ўлада свядома гуляе ў хованкі, разумеючы, што ў такіх слізкіх справах лепей пазбягаць публічнасці і грамадскага розгалосу. Тым не менш, асобная інфармацыя прасочваецца скрозь сіта вузкага кола дапушчаных асоб.

З дасведчаных крыніц карэспандэнту СВАБОДЫ стала вядома, што беларуска-расійскае "единение" нібыта будзе датычыцца і Узброеных Сілаў Рэспублікі Беларусь. Іншымі словамі, пры такім варыянце беларускае войска становіцца заходняй філіяй Узброеных Сілаў Расіі, а ягоны рэальны статус зніжаецца да статуса Чырвонасцяжнай Беларускай вайсковай акругі ў СССР.

Такі паварот справы, безумоўна, максімальна выгадны як для Расіі, так і асабіста для Ельцына. Цяперашні расійскі прэзідэнт такім ходам спадзяецца кардынальна ўзняць свае шанцы ў прэзідэнцкай барацьбе. У той час, калі пераважная большасць расійскіх палітыкаў драматычна-папулісцкі выкарыстоўвае гэтак званую "праблему пашырэння *NATO*", далучэнне беларускага войска да расейскай мілітарыстскай машыны з'яўляецца надзвычай прывабным для цяперашніх маскоўскіх уладаў. Ельцын як бы гаворыць сваім разгубленым суайчыннікам: "Цяпер Беларусь будзе абараняць нашыя заходнія рубяжы!", тым самым перахапляючы ініцыятыву ў камуністаў і велікадзяржаўнікаў на іхнім асноўным — інтэграцыйным і антызаходнім — фронце.

Гэта аргументы на карысць кіраўніцтва Расіі. Але што дае аб'яднанне, ці, лепей сказаць, паглынанне войска, беларускаму прэзідэнту? Захапіўшыся інтэграцыйнай рыторыкай і выкарыстоўваючы яе для падтрымкі ўласнага палітычнага рэйтынгу, Аляксандр Лукашэнка, магчыма, можа ўпусціць той момант, калі ініцыятыва выслізне з ягоных рук. Вядома ж, няма ніякага сумнення, што жаданне аб'яднацца з Расіяй валодае славяна-савецкай душою беларускага прэзідэнта. Але несапрэчна, што яшчэ больш магутным, "базавым" інстынктам у паводзінах Лукашэнкі з'яўляецца пермаментная прага пашыраць сваю ўладу. Усё, што не адпавядае гэтай стратэгічнай мэце, у той ці іншы момант можа быць адкінута.

З гэтага пункту гледжання цікава прасачыць, як мяняліся выказванні Лукашэнкі апошнія некалькі дзён. У Маскве падчас візіту беларускі прэзідэнт гучна ўжываў не толькі абстрактнае панятце "единение", але і такія максімальна канкрэтныя вызначэнні, як "канфедэрацыя" і нават "федэрацыя". Але прыехаўшы дадому, на прэс-канферэнцыі ў Мінску Лукашэнка ўжо не казаў гэтыя словы. Наадварот. Ён у прынцыпе не пацвердзіў, што будуць створаныя адпаведныя наднацыянальныя органы, заявіўшы, што могуць быць арганізаваныя міждзяржаўныя альбо наддзяржаўныя ўтварэнні.

Паказальна прагучала і рашучая адмова Лукашэнкі ад правядзення якога-небудзь новага рэферэндуму наконт аднасінаў з Расіяй ці па любой іншай тэматыцы. Забаўна, але на беларускім тэлебачанні і ў прэзідэнцкай прэсе апошнімі днямі найбольш часта ўжывальным стала слова "суверэнітэт" (самы ідыёцкі прыклад такой фразеалогіі гучыць наступным чынам: "единение через суверенитет").

Здаецца, кіраўнік Беларусі сваёй прыроднай інтуіцыяй пачынае разумець, што інтэграцыйныя працэсы могуць набыць такія хуткасць і накірунак, што іхні ініцыятар стане ўжо непатрэбным. Міжволі ўзгадваецца прыклад паважанага Лукашэнкам Гарбачова, у якога "працэс пайшоў", але не ў той бок. Ініцыятар "працэсу" застаўся ні з чым і цяпер даказвае журналістам, што ён задумваў "зусім не тое".

Яшчэ адзін рэферэндум, яшчэ адна наддзяржаўная структура — і Расія зможа вырашаць лёс Беларусі, асабліва не пытаючыся яе прэзідэнта. Лукашэнка, выканаўшы сваю ролю, стане непатрэбным Маскве. Ясна, што і Захад не прыйдзе на дапамогу лідэру з такой адыёзнай рэпутацыяй. У пэўнай сітуацыі, асабліва, калі Крэмль зоймецца камуністы, нават фізічнае існаванне прэзідэнта Беларусі можа стаць лішнім.

Лукашэнка адчувае гэта і імкнецца выгандляваць сабе нейкія гарантыі, выцякаючы бязглуздыя ідэі накшталт пачарговага кіравання аб'яднанай краінай ці іншыя варыянты на тэму "двухгалоўя". Але безліч "неафіцыйных" наведванняў Расіі разам з адзіным афіцыйным візітам здаецца, дапамаглі яму хоць трошкі зразумець, што Расія не жадае прызнаваць ніякага права на суверэнітэт Беларусі ў аб'яднанай дзяржаве. "Калі ўжо яднацца, дык без усякіх агаворак, цалкам, з усімі вантробамі". У Расіі і так хапае размоваў на тэму "калі беларусы, якія не прагнуць незалежнасці, жывуць ва ўласнай дзяржаве, чаму на гэта не можа права чачэнцы, якія за сваю незалежнасць змагаюцца?"

Калі Лукашэнка зразумее, што ў Маскве ён ніколі не стане ані "сваім", ані "роўным", калі ён сцяміць, што ва ўсіх інтэграцыйных гульнях з боку Расіі арбітрам выступае дзень выбараў прэзідэнта, кіраўнік Беларусі вымушаны будзе прыпыніць хуткасць і маштабы беларуска-расійскай інтэграцыі. Калі ж Лукашэнка гэтага не зразумее, ён паставіць самую дарагую для сябе рэч — сваю ўладу — пад сур'ёзную і некантралюемую пагрозу.

*ЛАТАРЭЯ*

## Падпіска працягнута да 19 сакавіка

### У вас яшчэ ёсць шанц выйграць тэлевізар!

**СВАБОДА вырашыла зрабіць прыемны падарунак сваім падпісчыкам.**

**Кожны, хто паспее аформіць падпіску на II квартал (а яна завяршаецца 19 сакавіка), можа стаць удзельнікам нашай латарэі. Галоўны прыз — каляровы тэлевізар. Акрамя таго, будзе разыграна яшчэ шмат іншых не менш цікавых і карысных прызоў.**

Розыгрыш будзе праводзіцца публічна 20 красавіка.

### Калі вы хочаце ўдзельнічаць у латарэі, трэба зрабіць дзве рэчы:

**1)** *Аформіць падпіску на газету СВАБОДА на II квартал (красавік–чэрвень). Падпіска прымаецца да 19 сакавіка ва ўсіх аддзяленнях пошты і Саюздруку.*

**2)** *Аформіўшы падпіску, выражце з газеты квіток з подпісам "Латарэя", запоўніце яго і дашліце ў рэдакцыю СВАБОДЫ. Прычым, адаслаць квіток трэба не пазней 25 сакавіка г.г. (па паштовым штэмпелі).*

Квіткі "Латарэя" будуць нумаравацца ў рэдакцыі і 20 красавіка — розыгрыш. Калі пажадаеце, зможаце прысутнічаць пры гэтым і бачыць усё на свае вочы. Дзе гэта будзе адбывацца — СВАБОДА паведаміць.

І самае галоўнае: прыз вы атрымаеце толькі ў тым выпадку, калі прад'явіце аплочаную падпісную квітанцыю на II квартал або на ўсё паўгоддзе. Таму абавязкова захоўвайце падпісны купон.

***Падпіска на СВАБОДУ каштуе 27 тысяч рублёў. Аформіўшы падпіску, вы гарантавана будзеце атрымліваць цікавую газету і, акрамя таго, маеце шанц выйграць наш прыз.***

**Рэдакцыя СВАБОДЫ**

**ЛАТАРЭЯ**
**ЛАТАРЭЯ**
**ЛАТАРЭЯ**
**ЛАТАРЭЯ**
**ЛАТАРЭЯ**
**ЛАТАРЭЯ**
**ЛАТАРЭЯ**

**СВАБОДА**
220088, Мінск, вул.Іванаўская,56
Тэл./факс 362441

Прозвішча, ініцыялы
(або назва фірмы) ________________

Ваш адрас ________________

СВАБОДА
12 сакавіка 1996 г., № 18

# Закансерваваныя фірмы

*Замежнікі чамусьці не хочуць дапамагаць нам будаваць рынкавы сацыялізм*

Нашае кіраўніцтва, безумоўна, хацела б мець паболей замежных капіталаў. Паўгода назад у Мінску нават новую кантору стварылі пад шчырай шыльдай: Дэпартамент па прыцягненні замежных інвестыцый. Але аднаго жадання мала. Разгледзім сітуацыю на прыкладзе адной вобласці — Гродзенскай.

Тут створаныя сумесныя прадпрыемствы з удзелам партнёраў з 26 краін: сто адно супольна з палякамі, па 20 — з немцамі і латышамі, па сем — з галандцамі і амерыканцамі, пяць — з італьянцамі і г.д. Усяго на Гродзеншчыне існуе 203 сумесныя і замежныя прадпрыемствы. Але ўсе разам яны даюць толькі адзін працэнт ад агульнага аб'ёму вытворчасці вобласці. З СП (усяго іх 159) справаздачу аб сваёй дзейнасці даюць усяго 37, з якіх толькі 27 маюць рэальныя прыбыткі. З 44 чыста замежных прадпрыемстваў па-сапраўднаму працуюць увогуле толькі два.

Па сутнасці, большасць з іх існуе ў закансерваваным выглядзе, чакаючы лепшых часоў. Па словах кіраўніка аддзела знешнеэканамічных сувязей Гродзенскага аблвыканкама Віктара Зданчука, замежныя партнёры апроч абавязковых 20 тысяч долараў статутнага капіталу стараюцца па магчымасці не рызыкаваць дадатковымі грашыма. Па яго словах, памножыўшы 20 тысяч долараў на 203 прадпрыемствы, мы атрымаем суму рэальных замежных інвестыцый у эканоміку вобласці. Інакш кажучы, яна роўная ўсяго 4 млн. долараў. Але трэба ўлічыць, што толькі частку статутных капіталаў складаюць грошы, астатняе ўнесена ў выглядзе абсталявання, матэрыяльных рэсурсаў.

Абласныя кіраўнікі дагэтуль любяць наракаць на тое, што, маўляў, рэгіструючы прадпрыемствы з замежным удзелам, спадзяваліся, што новыя фірмы зоймуцца пераважна вытворчасцю. Але структура іх дзейнасці ідэнтычная спектру інтарэсаў астатніх беларускіх фірмаў. На першым месцы зноў-такі гандлёва-пасрэдніцкая дзейнасць. Некаторыя займаюцца дрэваапрацоўкай, вытворчасцю безалкагольных напояў ды яшчэ сяго-таго. Але незважаючы на нашую танную працоўную сілу, вытворчасць часта з'яўляецца малавыгодным заняткам. Вось канкрэтны прыклад. Польскі маянэз, які вырабляецца ў Гродне беларуска-польскім СП, каштуе даражэй за мясцовы або прывезены ў гатовым выглядзе з Польшчы.

Улады, аднак, ужо зразумелі, што, як кажуць, чым наракаць на люстэрка, лепш прыгледзецца да свайго адлюстравання паўважлівей. Сп. Зданчук, напрыклад, сам прызнаецца, што льгот, якія прапануе нашае заканадаўства, зусім недастаткова для таго, каб замежнікі пажадалі ўкладаць грошы ў беларускую эканоміку. Тым больш, дадам ад сябе, што не мы адны такія ахвотныя да чужых долараў. Усе посткамуністычныя краіны змагаюцца за іх і большасць робіць канкрэтныя крокі насустрач замежнаму капіталу. Сёння, бадай, мы адны жадаем яго прызнасці абстрактна, рэальна не робячы для гэтага анічога.

Сёняшнюю сітуацыю як найлепей адлюстроўвае наступны прыклад. Кантрольныя органы правяралі нядаўна дзейнасць аднаго галандскага прадпрыемства, якое ў Гродне разбірае і ўпакоўвае крэветкі. У адказ на пэўныя прэтэнзіі галандзец папярэдзіў: будзеце ціснуць — перабяруся ад вас куды-небудзь у Румынію. Там умовы не горшыя, а нават лепшыя, чым у вас...

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Расіяне дыктуюць цэны

*"ЮКОС", "ЛУКойл" і "Славнефть" дыктуюць Беларусі цэны на паліва — сцвярджае ценявы кабінет БНФ*

"Вялікім абрабаваннем свайго народу" назваў сёняшнюю ўрадавую палітыку ў забеспячэнні энерганосьбітамі Станіслаў Гусак. На апошнім паседжанні ценявога кабінета БНФ ён прывёў наступныя лічбы: кошт тоны мазуту зараз на Беларусі дасягнуў 74 долараў ЗША, і гэта пры тым, што кошт тоны сырой нафты на сусветным рынку вагаецца ў памерах 60 долараў за тону (а мазут — гэта тое, што застаецца з нафты апроч усяго самага карыснага). Выдатная магчымасць для такога рабавання, па словах сп.Гусака, склалася пасля таго, як беларускае кіраўніцтва "здала" наваполацкі "НАФТАН" і мазырскі нафтаперапрацоўчы завод расійскім кампаніям "ЮКОС", "ЛУКойл" і "Славнефть". Зараз яны ператварыліся ў манапалістаў на беларускім рынку і таму, хаця большасць мазуту вырабляецца на беларускіх жа прадпрыемствах, расіяне дыктуюць на яго свае цэны. Па разліках ценявога кабінета, калі б краіна кантралявала выраб мазуту, яго кошт быў бы не вышэй як 40 долараў за тону.

Тое самае адбываецца і з газавым палівам, сцвярджае сп.Гусак. Замест абяцанага кошту ў 35 долараў за тысячу кубоў расійскі газ каштуе беларусам ужо 90 долараў. "Пасля такіх разлікаў мы зноў вымушаныя вярнуцца да ідэі Балтыйска-Чарнаморскага нафтавага калектара," — падкрэслівае сп.Гусак. Па яго словах, гэта разумее і вышэйшае кіраўніцтва. Нездарма ўжо падрыхтаваны эскіз праекта калектара, які для грамадскасці засакрэчаны. У канцэрне "Белнафтапрадукт", дзе праект ляжыць у сейфе, з ім ужо не знаёмяць нават спецыялістаў, сцвярджае сп.Гусак.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

# Заява

*Грамадскага Нацыянальнага арганізацыйнага камітэта святкавання 78-й гадавіны абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі*

**25 сакавіка спаўняецца 78 гадоў з таго вялікага, вызначальнага, дарагога кожнаму беларусу дня, калі ў далёкім 1918 годзе ў цяжкіх абставінах Першай сусветнай вайны была абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Закончыўся адзін этап нацыянальна-вызвольнага руху — змаганне за аднаўленне незалежнасці Беларусі. Пачалася стваральная праца над будаўніцтвам новай беларускай дзяржавы.**

**Але збег міжнародных абставінаў склаўся вельмі неспрыяльна для Беларусі. На ўсходзе і захадзе выспявалі жорсткія і варожыя беларускай незалежнасці таталітарныя рэжымы. Праз дзевяць месяцаў пасля акту 25 сакавіка Беларусь была акупаваная бальшавікамі. Аднак гэты акт усё ж прымусіў іх абвясціць БССР. У 1921 годзе Беларусь была падзеленая паміж Расіяй і Польшчай. Наш народ перажыў генацыд, панёс велізарныя людскія, духоўныя і тэрытарыяльныя страты. Але справа 25 Сакавіка не памерла, бо нельга жыць без свабоды. Гэты дзень адчыніў народу вольны беларускі шлях.**

**З асаблівым энтузіязмам адзначала беларуская грамадскасць гэтую натхняльную дату пасля 25 жніўня 1991 года, калі, ідучы да свабоды ў рэчышчы агульных намаганняў усіх народаў былога СССР, Беларусь аднавіла сваю незалежнасць. Акт 25 Сакавіка — гэта не толькі слаўная гістарычная падзея, але і пуцяводная зорка на шляху будаўніцтва і ўмацавання беларускай дзяржавы, грунт у стваральнай працы ўсяго беларускага народа.**

**Мы, усе беларусы, усе грамадзяне нашае краіны, будзем заўсёды шанаваць гэтую вялікую дату. Асабліва важна гэта цяпер, калі над нашай краінай зноў згусціліся хмары небяспекі, узнікла пагроза нашай незалежнасці, культуры, нацыянальнаму існаванню.**

**Аргкамітэт заклікае грамадзянаў Беларусі, грамадскія, палітычныя, дзяржаўныя арганізацыі ўрачыста і з годнасцю адзначыць 78-я ўгодкі абвяшчэння незалежнасці БНР. У шэрагу акцыяў плануецца правядзенне ў нядзелю 24 сакавіка масавага шэсця і мітынгу ў гонар акта 25 Сакавіка і ў абарону Канстытуцыі, законнасці і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь. Шэсце пачнецца а 12-й гадзіне ад плошчы Незалежнасці да сквера і помніка Янку Купалу і потым да помніка Максіму Багдановічу.**

**Грамадскі Нацыянальны камітэт віншуе ўсіх грамадзянаў Беларусі са слаўнай датай незалежнасці БНР і 78-мі ўгодкамі вялікай падзеі. Зычым свабоды, дабра і натхнення ўсім людзям нашай краіны.**

**Жыве Беларусь!**

***В.Быкаў (старшыня), Р.Барадулін, А.Грыцкевіч, М.Біч, Г.Карпенка, М.Грыб, А.Дабравольскі, С.Багданкевіч, П.Знавец, І.Сярэдзіч, Л.Баршчэўскі, І.Германчук, В.Мазец, Ю.Беленькі, Ю.Хадыка, В.Вячорка, В.Асташынскі, А.Бяляцкі, В.Сіўчык, А.Марачкін, С.Гусак, М.Купава, М.Анцыповіч, І.Саверчанка, С.Навумчык, М.Чарняўскі, З.Пазьняк.***

**ПАРАЛЛЕЛИ**

# Китайские ракеты снова летят в сторону Тайваня

**Орвилл ШЕЛЛ**

Китай испытывает новый взлет ультранационализма, что не может не вызывать беспокойства в силу того, что партия и военные решили дополнить национализм свойственной Китаю ксенофобией, громогласно утверждая, что "враждебные иностранные силы" выступают против Китая. Снова стали популярны значки с национальным флагом. При любом упоминании независимости Тайваня в его адрес из Пекина тут же начинают раздаваться угрозы, сопровождающиеся военными маневрами в проливе между Китаем и Тайванем и даже учебными пусками ракет в сторону острова.

Парадоксально, но националистическое бряцание оружием объясняется отнюдь не силой и уверенностью в себе (которые стараются продемонстрировать китайские лидеры), а страхом, вызванным слабостью. Этот страх вызван двумя причинами: незаконным правлением и осознанием того, что своей политикой партия лишила китайское общество тех ценностей, которые объединяют нацию. Сначала маоистская революция разрушила традиционные китайские ценности. Затем контрреволюция Дэн Сяопина покончила с образовавшимися маоистскими ценностями, тем самым оставив Китаю материализм в качестве ведущей философии. Многих заставляет задуматься сколько же еще все это продлится тот факт, что после 45 лет правления партии Китай остается заложником вождистской культуры, а нового "великого вождя" так и не появилось.

Во время этого кризиса легитимности китайские лидеры стараются заменить политический консенсус наиболее опасной формой национализма, а именно ненавистью ко всему иностранному. Не отличающаяся хорошей исторической памятью, правящая элита, видимо, забыла, что начиная с восстания боксеров в 1900 году и кончая поджогом британского представительства в годы культурной революции попытки возбудить народные массы и обвинить во всех бедах иностранцев ни к чему хорошему не приводили.

Современному Китаю стоит избавиться от уколов уязвленного самолюбия, поскольку продолжать настаивать на том, что суверенитету Китая постоянно угрожают иностранные заговоры, значит подталкивать народ Китая к увлечению опасными иллюзиями. Как и значительные успехи Китая в экономике, его политические неурядицы связаны прежде всего с внутренней ситуацией в стране. До тех пор, пока китайское руководство не перестанет думать о мести за события прошлого и не осознает, что именно оно ответственно за нынешнее положение вещей, день, когда Китай сможет разрешить стоящие перед ним острые проблемы, наступит не скоро.

"Великий архитектор" китайских экономических реформ Дэн Сяопин старался поощрять своих соотечественников "искать правду в фактах". Факты таковы, что хотя ни Америка, ни соседи Китая не пылают любовью к Компартии Китая, они не стремятся к новой политике сдерживания и вовсе не пытаются устроить в Китае политический переворот. Более того, все страны тихоокеанского региона хотят нормализовать свои отношения со страной с такими поразительными темпами развития. Было бы жаль, если бы консервативное китайское руководство продолжило использовать националистическую риторику и убеждать свое население в том, что Америка и другие государства посягают на правомерные национальные устремления Китая.

Спикер палаты представителей Конгресса США Ньют Гингрич как-то откровенно высказался, что китайцам уже пора "повзрослеть", отбросить свои страхи по поводу выдуманных заговоров, и перестать претендовать на Тайвань. (Ли Пэн заявил, что учебные пуски ракет в сторону Тайваня "демонстрируют непоколебимую решимость Народно-освободительной армии Китая защитить государственный суверенитет и территориальную целостность страны".) Хотя Генри Киссинджеру удалось уговорить Гингрича отказаться от своих слов, в своем неосторожном заявлении Гингрич высказал то, что другие не решались сказать вслух.

Для Китая пришло время "повзрослеть" и перестать быть зацикленным на защите своего национального суверенитета. Почему? Потому что эта политика не что иное, как уловка, используемая партией в своих собственных интересах (чтобы удержать власть), которая опасным образом извращает национальные интересы Китая. Правда заключается в том, что реальным интересам Китая вредят такие его действия, как учебные пуски ракет в сторону Тайваня, угрозы распустить Законодательное собрание Гонконга в 1997 году, непризнание новой реинкарнации Панчен-Ламы (который был выбран Далай-Ламой), чтобы навредить самому Далай-Ламе, продажа баллистических ракет Пакистану, а ядерной технологии Ирану, бряцание оружием по поводу островов Пратос, попытки обвинить Соединенные Штаты во "вмешательстве во внутренние дела Китая", когда США говорят о нарушении прав человека и правил торговли.

Президент Китая Цзян Цземин стал уделять больше внимания укреплению своей власти в стране. Если он также хочет укрепить свои позиции за рубежом и подтвердить свой имидж эффективного лидера одной из ведущих стран мирового сообщества, то ему следует положить конец этой националистической шараде о "враждебных иностранных силах", набросившихся на униженный и слабый Китай. С другой стороны, мировое сообщество должно знать и о том историческом наследии, которое часто руководит китайской политикой, и о том давлении, которое оказывается на президента Цземина теми престарелыми консерваторами, которые пришли в политику в то время, когда антиимпериализм был скорей реальностью, нежели плодом их воображения.

Реальной проблемой для китайского руководства является не иностранная обструкция, а то, как управлять китайским народом справедливо и как стать конструктивным и уважаемым членом мирового сообщества.

*© Project Syndicate – СВАБОДА*

*Сведения об авторе: Орвилл Шелл является одним из ведущих американских экспертов по Китаю и китайской литературе. В настоящее время он работает старшим научным сотрудником организации Форум Свободы и Центра по изучению Китая при Университете Калифорнии в Беркли. Кроме того, Шелл часто пишет статьи для журнала "Нью-Йоркер" и является автором девяти книг о Китае. Его десятая книга, под названием "Мандат небес", будет опубликована в этом году.*

СВАБОДА
12 сакавіка 1996 г., № 18

## Першыя дыпломы Біблейскага інстытута

**8 сакавіка ў Мінску ў Біблейскім інстытуце евангельскіх хрысціян-баптыстаў Беларусі адбылася ўрачыстая цырымонія ўручэння дыпломаў першым выпускнікам.**

Пасля трохгадовага навучання на багаслоўскім факультэце некаторыя атрымалі кваліфікацыю выкладчыка нядзельнай школы, хрысціянскага служэння, але найбольш — кваліфікацыю пастыра. Большую частку прадметаў у інстытуце выкладаў доктар багаслоўя Раман Дзехцярэнка са Злучаных Штатаў.

Выступаючы з прывітальным словам, прэзідэнт Саюза ЕХБ Аляксандр Фірысюк адзначыў, што "8 сакавіка не лічылася хрысціянскім святам, але з гэтага часу стане святам нашага брацтва".

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**




*Малюнак Мікалая СЕЎЛЮКА*

ЛІСТЫ Ў РЭДАКЦЫЮ

## Як стаць багатым – гэта актуальна

Я прапаную ўвесці ў газеце рубрыку "Як стаць багатым", альбо — "Як дабіцца поспеху". Пад гэтай рубрыкай можна змяшчаць матэрыялы па розных відах дзейнасці, але галоўны сэнс: як дабіцца фінансавага поспеху з мінімальнымі матэрыяльнымі затратамі. Было б добра, каб дасведчаныя і неабыякавыя да гаротнага стану грамадства спецыялісты давалі ў рубрыцы кваліфікаваныя парады, "як стаць багатым".

Я таксама гатовы даць некалькі парадаў з блізкай мне галіны — сельскай гаспадаркі. Напрыклад, можна заняцца развядзеннем цыбульных кветак. Якасныя цыбулькі гладыёлусаў альбо цюльпанаў у Маскве, Пецярбургу ды іншых гарадах Расіі вельмі цэняцца. Ці, скажам, на тым гектары, што дазволена мець у прыватнай уласнасці сялянам, можна закласці якасны сад з познімі гатункамі яблык, якія доўга захоўваюцца. Сёння яблыкі даражэй за бананы і каштуюць на Камароўцы 14-15 тысяч рублёў.

Спосабаў стаць заможнымі людзьмі шмат. Трэба спяшацца, бо "рынкавы сацыялізм" хутка адыйдзе разам з ягонымі ідэолагамі і да нас прыйдзе сапраўдны рынак з яго жорсткімі ўмовамі.

Хочацца звярнуцца да спадарства: "Грамадзяне! Працуйце, вырошчвайце, будуйце, гандлюйце, аказвайце розныя паслугі і, урэшце, багацейце. Калі грамадства стане заможным, гэта будзе смяротным ўдарам па таталітарызму, па камандный сістэме, бо крыніца таталітарызму — жабрацтва і жабрацкая псіхалогія, жаданне нічога не рабіць, а хутчэй прытуліцца да пляча "старэйшага брата".

**Віталь КУДЗЯКІН**
*фермер, Мінская вобласць.*

## «Чугуначныя» беларусы

Мяне здзіўляюць людзі, якія не саромеюцца выстаўляць напаказ уласную непісьменнасць. Асабліва вызначаюцца тут супрацоўнікі беларускага радыё і тэлебачання, многія з якіх аднолькава кепска валодаюць што рускай, што беларускай мовамі. Вельмі каларытную характарыстыку такой публіцы даў невядомы пісака, творчасць якога я пабачыў на аўтобусным прыпынку каля мінскага чыгуначнага вакзала. Назву прыпынка гэты "грамацей" напісаў так: "чугуначны вакзал"...

**А.МІНАК**



ПАВОДКА

## Падрыўнікі назапасілі дынаміт, а заапарк рыхтуецца да эвакуацыі

Сёлетняя паводка па прагнозах будзе вельмі вялікай. Гродзенскія ўлады арыентуюцца на сітуацыю 1958 года, калі Нёман узняўся ажно на 9 метраў. У Гродне тады былі затопленыя прыбярэжныя вуліцы, некалькі прадпрыемстваў, напрыклад піўзавод.

Вялікая небяспека чакае сёлета старажытную Каложскую царкву, якая стаіць на высокім нёманскім беразе. У мінулым стагоддзі палова храма абрынулася якраз з-за паводкі, якая падмыла бераг. Гэтымі днямі калажанскі бераг пачнуць умацоўваць, каб ахаваць ад стыхіі помнік дойлідства XII стагоддзя.

Апроч Нёмана ў вобласці вельмі небяспечныя яшчэ тры ракі — Шчара, Котра і Вілля. З-за Шчары ў г.Слоніме можа цалкам перапыніцца водазабеспячэнне. У горадзе да магчымай эвакуацыі рыхтуецца 5 тысяч чалавек. Іх размесцяць у дзвюх вайсковых казармах і ў школах. Падрыхтаваны салдацкі клуб, каб карміць пацярпелых ад паводкі.

На Гродзеншчыне можа быць затоплена ад 65 да 80 вёсак з 13 тысячамі жыхароў, а таксама 22 фермы на 12 тысяч галоў жывёлы. Маёмасць эвакуіраваных рыхтуецца ахоўваць ад рабаўнікоў мясцовая міліцыя. Ёсць яшчэ некалькі вельмі небяспечных мясцін. Перадусім, гэта г.Бярозаўка, які знаходзіцца ў Лідскім раёне непадалёк Нёмана. Два гады таму пры значна меншай паводцы фільтрацыйныя вадаёмы тутэйшага шклозавода "Нёман" выйшлі з берагоў і залілі горад шкоднымі сцёкамі. Сёлета вынікі могуць стаць яшчэ горшымі.

Літаральна змыць можа вёску Рачуны ў Смаргонскім раёне, каля якой знаходзіцца вадасховішча. Каб яе ўратаваць, падрыхтавана тысяча мяшкоў з пяском для ўмацавання дамбы і капаюць 600-метровы канал шырынёю 7 метраў і глыбінёю 2 метры для адводу вады. 200 метраў ужо пракапалі.

Усяго ў вобласці 74 вадасховішчы. З іх толькі 34 маюць гаспадароў, якія павінны сачыць за іх станам.

У вобласці пачалі кругласутачна ахоўваць асноўныя рачныя масты. Створана 68 брыгад (гэта 1.200 чалавек) на выпадак пашкоджання электраліній і газаправодаў, якія пракладзены над паверхняй рэк. Створана таксама група сапёраў для знішчэння лёдавай паверхні рэк. Па дамоўленасці з суседняй Літвой будуць узрываць лёд на Нёмане, але спачатку з літоўскага боку. Тры верталёты маюць кантраляваць зверху сітуацыю на рэках і вадасховішчах. Не забыліся ў абласной камісіі па надзвычайных сітуацыях і пра адзіны беларускі заапарк, які знаходзіцца ў Гродні на рацэ Гараднічанка. Лічаць, што яго цалкам залье вадою. Звяроў будуць тады размяшчаць у прыгарадных калгасах. Але для гэтага трэба зрабіць 500 клетак коштам 500 мільёнаў рублёў. Часу вельмі мала. Улады спадзяюцца частку клетак пазычыць у мінскім цырку.

Усяго на падрыхтоўку да паводкі ў вобласці патрэбна каля 10 млрд. рублёў. Улады просяць у сталіцы хаця б палову ад гэтай сумы.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## «Дыверсанта» перадалі ў КДБ

**Яшчэ адзін паветраны шар заляцеў нядаўна з Захаду на тэрыторыю Беларусі.**

**Гэтым разам нашыя доблесныя абаронцы паветранай прасторы "прамаргалі" аб'ект і ён спакойна прызямліўся ў г. Ліда на хату Святланы Шыбутовіч. Прымацаваная да шара невялікая скрынка (памерам 30 х 50 см) папісквала кароткімі сігналамі. Напалоханая грамадзянка Шыбутовіч заявіла ў міліцыю, што на яе хаце вісіць "міна". Прыехаўшы на месца, міліцыянты зразумелі, што гэта ўсяго толькі аматарскі радыёзонд, які прыляцеў з Польшчы (на скрынцы быў напісаны па-польску адрас гаспадара, які абяцаў узнагароду таму, хто знойдзе і верне яму радыёзонд).**

**Міліцыянты, аднак, не спакусіліся на ганарар, а перадалі "дыверсанта" калегам з дзяржбяспекі. Мясцовыя журналісты звярнуліся да шэфа лідскага КДБ В.Прахорчыка з просьбай дазволіць сфатаграфаваць радыёзонд для газеты. Аднак той сказаў, што апарат ужо адпраўлены "куды трэба" — не гаспадару, вядома, а на экспертызу.**

**Валодзя ЯНЧУК**

СПОРТ

## Дзмітрый Маркаў – па слядах Сяргея Бубкі

**ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА**

☒ Чэмпіянат Еўропы па лёгкай атлетыцы ў закрытых памяшканнях, які прайшоў у сталіцы Швецыі Стакгольме, нечакана падараваў беларусам новае імя. 21-гадовы спартсмен Дзмітрый Маркаў, якога раней ведалі толькі спецыялісты, выйграў тытул чэмпіёна Еўропы ў скачках з шастом з новым рэкордам Беларусі — 5 м 85 см. Пры гэтым ён апярэдзіў моцных расійскіх лёгкаатлетаў Чысцякова і Бачкарова, якія ўзялі 5 м 80 см. Дарэчы, гэта ўжо трэці за апошні час рэкорд, устаноўлены Дзмітрыем. З такімі вынікамі не сорамна ехаць і ў Атланту. Іншыя нашы лёгкаатлеты выступілі няўдала. Толькі Аляксандр Главацкі заняў пятае месца ў скачках у даўжыню.

Больш паспяхова за іншых змагаліся за медалі спартсмены Германіі: 4 залатыя, па 2 срэбныя і бронзавыя.

**БІЯТЛОН**

☒ У Паклюку (Славенія) гучалі стрэлы — біятланісты праходзілі перадапошні этап Кубка свету. Расіянін Уладзімір Драчоў, заняўшы другое месца у гонцы на 20 км следам за суайчыннікам Сяргеем Ражковым і выйграўшы 10-кіламетровую дыстанцыю, датэрмінова завалодаў галоўным трафеем., З беларусаў лепшымі былі: у гонцы на 20 км — Аляксандр Папоў (9-е месца), на 10 км — Вадзім Сашурын (4-е) і Алег Рыжанкоў (13-е).

☒ Парадавала Наталля Пермякова, якая паднялася на другую прыступку п'едэстала гонару пасля гонкі на 15 км. А выйграла Таццяна Вадап'янава з Украіны. У спрынтэрскай гонцы на 7,5 км лепшай была ветэран біятлонных трас Петра Беле з Германіі, а наша Святлана Парамыгіна заняла 7-е месца.

**ГОРНАЛЫЖНЫ СПОРТ**

☒ Гарналыжнікі завяршылі сваё падарожжа па небяспечных горных трасах свету. Уладальнікамі Вялікіх Кубкаў свету сталі немка Каця Зайцынгер і нарвежац Ласэ К'юс. Абодвум у гэтым сезоне давялося адчуць і расчараванне. К'юс два месяцы таму ледзьве не разбіўся на трасе хуткаснага спуска, але яму пашанцавала: выбыў з барацьбы толькі на месяц. Але перавага яго была настолькі вялікая, што канкурэнты за гэты месяц не змаглі дагнаць Ласэ.

Каця Зайцынгер — самая універсльная гарналыжніца. Яна аднолькава моцна выступае і ў слаламных, і ў хуткасных дысцыплінах. На чэмпіянаце свету ў С'ера-Невадзе яна займала высокія месцы ва ўсіх гонках, але чэмпіёнкай так і не стала. Затое цяпер, апроч Вялікага Кубка, заваявала яшчэ і малы — за перамогу ў супергіганце. Як бачыце, моцныя не падаюць духам, а змагаюцца з лёсам. Часам паспяхова.

**ЛЫЖЫ**

☒ Уладзімір Смірноў з Казахстана выйграў у Фалуне (Швецыя) чарговы этап Кубка свету па лыжных гонках. Аднак пасля фінішу шчаслівым выглядаў не ён, а Б'ёрн Дэлі з Нарвегіі, які быў другім. Па суме ачкоў, набраных за сезон, ён апрэдзіў Смірнова і атрымае за гэта Кубак свету. У жанчын інтрыга захаваецца да апошняга старту. Найлепшыя шанцы ў Мануэлы дзі Чэнты, якая выйграла апошнюю гонку. На 30 ачкоў адстае Алена Вяльбе (Расія). Толькі паспяховы ход падзеяў можа выручыць расіянку, якая лідзіравала ўвесь сезон і рэзка скінула абароты на фінішы.

**МАСТАЦКАЯ ГІМНАСТЫКА**

☒ 17-гадовая мінчанка Яўгенія Паўліна заняла першае месца на міжнародным турніры ў Сан-Францыска (ЗША). Нагадаем, што за тыдзень да гэтага бліскуча выступіла ў парыжскай зале "Берсі" Ларыса Лук'яненка, якая перамагла ў барацьбе з мацнейшымі "мастачкамі" свету ў трох практыкаваннях з чатырох. Лук'яненка і Паўліна — галоўныя прэтэндэнткі на месца ў алімпійскай камандзе Беларусі. Ёсць яшчэ чэмпіёнка свету 1993 года Таццяна Агрызка, але ў Атланту могуць паехаць толькі двое. Вольга Гонтар, якая яшчэ зусім нядаўна бліскуча выступала, спыніла заняткі спортам. Прычыны: траўма спіны і канфлікт з галоўным трэнерам нацыянальнай зборнай Галінай Крыленка, у якім ні таленавітая спартсменка, ні вопытны трэнер не пажадалі саступіць адзін аднаму.

**ТЭНІС**

☒ Проста цуды паказвае на кортах свету 24-гадовы харвацкі тэнісіст Горан Іванішавіч. У Ротэрдаме (Галандыя) ён перамог у фінале расіяніна Яўгена Кафельнікава — 6:4, 3:6, 6:3. Гэта чацвёртая ягоная перамога за апошнія паўтара месяца. Іванішавіч, які ў 20 гадоў быў трэцяй ракеткай свету, потым знізіў клас гульні і апусціўся "на дно" першай дзесяткі сусветнага рэйтынгу. Але вышэйпералічаныя поспехі дазволілі Горану падняцца ўжо на шостую прыступку і істотна скараціць разрыў з Майклам Чангам, які ідзе пятым.

**ШАХМАТЫ**

☒ Прэзідэнт *FIDE* Кірсан Ілюмжынаў знайшоў грошы для правядзення фінальнага матча на першынство свету па версіі Міжнароднай шахматнай федэрацыі. Паядынак, які пачнецца ў сталіцы Ірака Багдадзе, забяспечаны прызавым фондам у два мільёны доляраў. Пачаць матч вырашылі ў Міжнародны дзень абароны дзяцей — 1 чэрвеня. Таму ўдзельнікі матча Анатоль Карпаў і Гата Камскі вырашылі 500 тысяч прызавых аддаць на карысць дзяцей. Прыгожы жэст, калі забыцца на тое, хто забяспечваў прызавы фонд. А гэта Садам Хусэйн, імя якога стала сімвалам агрэсіі і жорсткасці. Карпава і Камскага гэта не цікавіць, а вось Дзяржэпартамент ЗША мае на гэта іншую думку. Вось ужо пяць гадоў дзейнічаюць штрафныя санкцыі ў адносінах да Ірака, адна з якіх забараняе грамадзянам ЗША наведваць гэтую краіну. Парушэнне забароны пагражае Камскаму шматгадовым пазбаўленнем волі. Ілюмжынаў, праўда, заявіў, што на шахматы палітычныя санкцыі не распаўсюджваюцца. Відаць, прэзідэнт *FIDE*, які аднachасова з'яўляецца прэзідэнтам Калмыкіі, настолькі прызвычаіўся да крыві, якая праліваецца ў Чачні, што рэкламу садамаўскага рэжыму ён лічыць чыста шахматнай справай.

**Сямён ПЛОЦ**

Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by © СВАБОДА Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 45.000 (1-шы завод – 40.000)
Нумар падпісаны ў друк 11.03.96 (15.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 10 Заказ 225